РЭДКІЯ ЛЮДЗІ



# «Я не феміністка»

*Чаму беларуска кінула прыстойную дзяржаўную працу і пайшла ў дальнабойшчыкі*

**Вера Брынькова змяніла сукенкі і абцасы на джынсы з красоўкамі і перасела з кабінета ў кабіну фуры. Так збылася мара. Як гэта – кінуць стабільную працу пасля 30, выпраўляцца ў дарогу на месяц з напарнікам-мужчынам і заставацца жанчынай у «мужчынскай» прафесіі?**

## «Захварэла» на вялікагрузы

Веры Брыньковай 37 гадоў. Жыве ў Гродне. Большую частку жыцця правяла ў родным Шчучыне. Там 14 гадоў працавала ў дзяржаўнай арганізацыі. Абрала, як сама кажа, «мужчынскую» прафесію – электрык-энергетык. Пачынала кантралёрам, які правярае па кватэрах лічыльнікі. Вырасла да інжынера-энергетыка. Заробак задавальняў – выходзіла амаль «па пяццот». Прапаноўвалі месца начальніка аддзела.

Аднак як толькі пасталеў сын, якога Вера выхоўвае адна, жанчына дазволіла сабе зрабіць тое, чаго хацела амаль усё жыццё. Пайшла ездзіць на вялікай машыне.

*«У пэўны момант я проста стамілася. Тым больш што пра дальнабой я марыла вельмі даўно»,* – усміхаецца Вера.

Кажа, што «захварэла» на вялікагрузы з моманту, як убачыла дзяўчыну за стырном фуры.

*«У фуры адчуваеш сябе абароненай. Яна вялікая, а ты маленькая ў ёй. Сядзіш высока і бачыш усё»,* – кажа кіроўца.

Сваякі круцілі пальцам ля скроні, калі даведаліся пра такое рашэнне. Але адгаворваць не спрабавалі, ведаючы Верын характар. Начальнік аддзела штодня прасіў яе не сыходзіць, бо цаніў як добрага работніка.

«Навошта табе мяняць спакойны кабінет на сабачае жыццё, начаваць не дома?» – казалі бацькі. Перажывалі, пакуль не ўбачылі, што дачка шчаслівая на новай працы.

## «Я сядаю ў машыну і ўжо ўсміхаюся»

Легкавушкай Вера кіруе ўжо 15 гадоў. Машыны і дарога – яе захапленне.

*«Я сядаю ў машыну і ўжо ўсміхаюся, бо прадчуваю дарогу»,* – кажа наша суразмоўніца.

Ёй падабаецца глядзець на чорную дарогу з белай рысай, сачыць, як за акном пралятаюць хаты і лясы, прыдумляць, што нагадваюць аблокі, і заўважаць дрэвы цікавай формы. Ёй добра думаецца за стырном. Гэта час, калі нараджаюцца мары. Каб палепшыць кепскі настрой, Веры таксама дастаткова праехацца на машыне.

*«Мне ў дарозе лёгка. Я магу паспаць, магу пагаварыць. Размовы ў дарозе выходзяць душэўныя. Ты, можа, болей ніколі гэтага чалавека не ўбачыш. Але яму можна расказаць пра сваю сітуацыю, і ён можа нават даць добрую параду. Блізкім такое не заўжды раскажаш»,* – мяркуе Вера.

## На катэгорыі С і Е здала з першага разу

Дзеля новай працы трэба было здаць на катэгорыі С і Е. У першым выпадку ў групе на курсах было толькі дзве дзяўчыны, другая не давучылася.

Інструктар не верыў, што вучаніца здасць экзамен. Але ўжо на пятым занятку запісваў відэа, як яна паркуецца, каб паказваць мужчынам. Казаў, што многія не здольны так запаркавацца і з 25-й спробы.

Экзамены на абедзве катэгорыі жанчына здала з першага разу.

Спачатку шукала працу ў Беларусі: па-першае, каб набрацца тут досведу, па-другое, таму, што за мяжой гэта складаней зрабіць па дакументах.

Мяркуе, што ёй пашчасціла. Бо працу ў невялікай гродзенскай фірме знайшла досыць хутка – праз два тыдні пошукаў. Кажа, што працадаўца здзівіўся жанчыне, аднак праблем з гэтым не было.

Праўда, праз тры месяцы Вера звольнілася. Заробак выходзіў 300–400 долараў. Ездзіла ў асноўным па Беларусі. Да таго ж яе пасадзілі на старую Volvo 1999 года, якая часта ламалася.



## «Гэта больш, чым муж і жонка»

Яе заўважылі калегі з мінскай фірмы і перавабілі да сябе. Машыну выдзелілі найноўшую і паставілі працаваць з напарнікам-мужчынам. Праца ў пары дазволіла ездзіць у далейшыя рэйсы: па Еўропе, у Грузію. Паездкі займалі каля месяца.

*«Я сама спачатку моцна перажывала: гігіена, розніца палоў. Напарнік не прыставаў. Гэта неяк само сабой адчуваецца і рэгулюецца. Ты вельмі хутка даведваешся пра ягоныя звычкі. Гэта больш, чым муж і жонка. Спаць разам, есці разам, разам 24 гадзіны ў суткі»,* – расказвае Вера.

Аднойчы давялося прымаць душ за 15 хвілін на дваіх на аўтазапраўцы, бо «гарэў» тэрміновы заказ. Давялося мыцца побач.

Жанчына прызнаецца, што напрыканцы рэйса другі чалавек пачынае раздражняць адным сваім выглядам, хочацца ад яго адпачыць. Аднак дастаткова пары дзён, каб ізноў засумаваць па камунікацыі.

*«Калі мой калега ў дарозе бачыў, што я пачынаю злавацца, выходзіў пашпацыраваць на паўгадзіны. «Ну што, супакоілася?» – «Супакоілася». Тады ехалі далей»,* – расказвае дальнабойшчыца пра тое, як пазбягалі канфліктаў.

Вера кажа, што адной ездзіць спачатку было страшна. Лішні раз не рызыкавала. На стаянках магла зусім не выходзіць з кабіны, каб кіроўцы-мужчыны нападпітку не пачалі прыставаць. Аднак, на яе думку, пацярпець у дарозе могуць і дальнабойшчыкі-мужчыны. Здараецца ж, што груз рабуюць або нават забіваюць кіроўцаў.

## На час рэйсу кабіна становіцца домам

Што да побыту ў дарозе, то Вера мяркуе, што наладзіць яго нескладана, калі любіш сваю працу, а не ездзіш толькі дзеля грошай. На час падарожжа кабіна становіцца домам. У ёй гатуюць і ядуць, хатнюю ежу можна захоўваць у лядоўні. Калі Вера стомлена, купляе ежу ў кавярнях. Калі мае натхненне, можа згатаваць боршч з таго, што нарыхтавана дома.

Салон даволі прасторны, так што можна па ім пахадзіць, размяць ногі. Вера магла там нават рабіць зарадку.

Кажа, што цяпер сачыць за гігіенай прасцей. Ёсць каністры з кранікамі, якія ставяць на прыступкі машыны, каб памыцца. Прызнаецца, што яна лянівая, каб штодня фарбавацца. Таму перад рэйсам наведвае майстроў па прыгажосці, робіць манікюр, падкручвае вейкі.

*«Прачнулася зранку – і я ўжо прыгажуня»,* – усміхаецца жанчына.

Праўда, да сукенак і абцасаў не цягне. Як пайшла працаваць на фуры, дык паўтара года не надзявала «жаночага».

## Зняць тэнт з фуры або замацаваць груз прасіла калег-мужчын

Хоць Вера руйнуе стэрэатыпы пра «мужчынскую» прафесію, феміністкай сябе не лічыць. Мяркуе, што дзяліць працу на мужчынскую і жаночую справядліва.

*«Я жанчына. Я хачу, каб пра мяне клапаціліся. Жанчына – гэта жанчына. Мужчына – гэта мужчына. У іх розны менталітэт. Мне падабаецца, калі мной захапляюцца. Калі я не такая, як большасць»,* – кажа яна.

Яна адзначае, што ёсць рэчы на працы, якія ёй як жанчыне фізічна складана рабіць. Напрыклад, калі пры загрузцы і разгрузцы машыны трэба зняць або надзець тэнт, асабліва ўзімку, калі ён замярзае, або замацаваць рамянямі груз. У гэтым яна просіць дапамагчы калег-мужчын. Кажа, ніколі не адмаўлялі.

У той жа час водзіць яна, як сама мяркуе, лепш за многіх мужчын: акуратней, часам і хутчэй, не рызыкуе дарма. Умее даваць рады ў стрэсавых сітуацыях. Аднойчы на запраўцы мужчыны залівалі ў бак алей, і аўтамабіль загарэўся. Мужчыны адразу адбеглі ўбок. Вера пабегла да машыны, знайшла вогнетушыцель і патушыла пажар.

*«Толькі потым да мяне дайшло, што магло здарыцца. Гэта ж запраўка. І мяне пачало трэсці. Але спачатку я зрабіла, што было патрэбна»,* – кажа жанчына.

На майцы ў дальнабойшчыцы англамоўны надпіс «Забудзься на правілы». Але яна кажа, што на дарозе правілы не парушае. Ніколі не сядае за стырно нецвярозай і мяркуе, што п'яныя кіроўцы заслугоўваюць вельмі жорсткага пакарання.

## Абяцаюць заробак каля 2000 еўра

З мінскай фірмы Вера таксама звольнілася. Заробак там быў вышэйшы за гродзенскі – 600–700 еўра. Але графік вымотваў. Пасля рэйса ў некалькі тыдняў на адпачынак адводзілі 2–3 дні. За гэты час нельга было ні адпачыць, ні разабрацца з хатнімі справамі.

Знаёмыя параілі літоўскую фірму. Туды Веру таксама ўзялі без перашкод. Нядаўна яна аформіла патрэбныя дакументы. Напрыклад, за пасведчанне кіроўцы-міжнародніка, які можа перавозіць грузы, мелася заплаціць 400 еўра. Дадатковы экзамен у Літве здаваць было не трэба.

Пакуль Вера ўладкоўвалася на працу на літоўскую фуру, пайшла часова працаваць у гродзенскае таксі. Паводле яе назіранняў, там ужо каля 30% кіроўцаў – жанчыны. Кажа, дзяўчаты больш акуратныя, чым мужчыны, і працадаўцы гэта цэняць.

Неўзабаве яна выедзе ў першы рэйс па Еўропе на новай працы. Цяпер графік для яе зручнейшы: шэсць тыдняў у рэйсе, тры тыдні дома. На час выпрабавальнага тэрміну заробак абяцаюць 55 еўра за дзень у рэйсе, потым – 65 еўра.

Цяпер, калі Вера знайшла працу па душы, у яе застаецца яшчэ некалькі мар: свой дом у глушы, скокнуць з парашутам і запісацца на курсы экстрэмальнага кіравання аўтамабілем. А сябры жартуюць, што наступным крокам, відаць, будзе прафесія пілота самалёта.

(Радыё Свабода.)

ХАКЕЙ

# «Мы не глядзім у табліцу...»

*Хакейнае мінскае «Дынама» выйграе тры гульні запар.*

Няўдалы старт «Зуброў» у чэмпіянаце КХЛ не спалохаў аптымістаў, якія верылі, што новы трэнерскі штаб, у які ўваходзяць добра вядомыя беларускім балельшчыкам канадзец **Крэйг Вудкрафт** і экс-ігрок зборнай Беларусі **Міхаіл Грабоўскі**, знойдуць метады, каб удыхнуць у каманду новае жыццё.

У апошніх трох матчах у «Дынама» і насамрэч як быццам крылы выраслі. Тры перамогі запар – над магнітагорскім «Металургам», хабараўскім «Амурам» і фінскім «Ёкерытам». Пры гэтым фінаў наша каманда, як кажуць, вынесла ў адны вароты – 5:0!

«Дынама» зараз займае ў сваёй канферэнцыі 8-е месца і ўпершыню ўвайшло ў зону плэй-оф. Многія аматары хакея адразу задаліся пытаннямі: няўжо Вудкрафт знайшоў тую самую сістэму, якая ў будучым зробіць «Зуброў» канкурэнтаздольнымі ў лізе? Ці не разавы гэта ўсплёск яркай гульні? Што зрабіць, каб каманда працягвала гэтак жа гуляць і надалей?

*«Я ўжо казаў, што ў гэтым сезоне мы ідзём ад гульні да гульні і не заглядваем далёка,* – адказаў галоўны трэнер «Дынама» **Крэйг Вудкрафт** на афіцыйным сайце клуба. – *Мы не глядзім у турнірную табліцу, а разглядаем наступнага апанента, каб зразумець, як згуляць супраць яго.*

*Што тычыцца нашай гульні, то часам бывае, што ты разумееш: не хапае вось гэтага. Выпраўляеш памылкі, а каманда зноў дорыць непрыемны сюрпрыз. Значыць, нешта ты няправільна зразумеў. Магу сказаць, што мы будзем рухацца ад адной гульні да другой на працягу ўсяго сезона.*

*А трэнерскі штаб будзе заўсёды патрабаваць ад ігракоў такой гульні, якую яны паказвалі ў апошніх матчах. Калі ты зрабіў гэта аднойчы, то чаму не можаш гэта паўтарыць? Бо гэта і ёсць сапраўдны ўзровень нашай каманды».*

Дарэчы, вераць у каманду і балельшчыкі. Падчас апошняй гульні з «Ёкерытам» за матчам на «Мінск-Арэне» назіраў 14.671 глядач. Увогуле, у гэтым сезоне на матчы «Зуброў» у сярэднім прыходзіць па 13.411 балельшчыкаў. Гэта лепшы паказчык у Кантынентальнай хакейнай лізе!

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *Наступны матч «Дынама» згуляе сёння, 24 верасня. У гасцях беларуская каманда сустрэнецца з «Торпедо» з Ніжняга Ноўгарада.*

ПРОГНОЗЫ

# Пройдет ли в Минске футбольный Суперкубок?

*Это решится сегодня на исполкоме УЕФА.*

24 сентября исполком определит, где пройдут финалы Лиги чемпионов в 2021-м, 2022-м и 2023 годах, финал Лиги Европы 2021 года, матч за Суперкубок 2021 года, финальная стадия футзального ЕВРО-2022, финальные стадии юношеских турниров 2021-го и 2022 годов, а также будет утвержден регламент стыковых матчей и жеребьевки финальной стадии ЕВРО-2020.



Напомним, что Беларусь является одним из претендентов на проведение матча за Суперкубок-2021, в котором будут встречаться победители Лиги чемпионов и Лиги Европы.

Кто составит конкуренцию Минску? Стадион «Металлист» в Харькове, «Олимпийский» в столице Финляндии и арена «Виндзор Парк» в Белфасте (Северная Ирландия).

Кстати, на прошлой неделе в белорусскую столицу прилетал президент УЕФА Александер Чеферин, который, кроме всего прочего, встречался и с белорусским руководителем. Александр Лукашенко заверил: если Минск будет определен местом организации Суперкубка УЕФА-2021, то страна сделает все возможное, чтобы мероприятие прошло на самом высоком уровне.

Впрочем, не будем загадывать, но если Минск и на самом деле выиграет право на проведение такого матча, то в августе 2021 года белорусская столица будет озарена созвездием футбольных знаменитостей. Вспомните нынешний матч Суперкубка в Стамбуле, в котором встречались английские «Челси» и «Ливерпуль» (последний победил по пенальти). Это было фантастическое зрелище!

**Сергей НИКАНОРОВ.**

ФУТБОЛ

# Лідары ідуць без паражэнняў

*Прайшлі матчы 22-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: «Тарпеда» (Мінск) – БАТЭ (Барысаў) – 0:3, «Мінск» – «Славія» (Мазыр) – 1:0, «Гарадзея» – «Дынама» (Брэст) – 1:3, «Слуцк» – «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – 1:2, «Нёман» (Гродна) – «Дняпро» (Магілёў) – 1:0, «Шахцёр» (Салігорск) – «Віцебск» – 4:0, «Энергетык-БДУ» (Мінск) – «Іслач» (Мінскі раён) – 1:2, «Гомель» – «Дынама» (Мінск) – 0:1.

**Турнірнае становішча**

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 21 | 17 | 3 | 1 | 54–15 | 54 |
| БАТЭ | 20 | 16 | 1 | 3 | 43–11 | 49 |
| Шахцёр | 20 | 16 | 1 | 3 | 43–13 | 49 |
| Дынама (Мн) | 21 | 14 | 1 | 6 | 33–21 | 43 |
| Тарпеда-БелАЗ | 22 | 11 | 5 | 6 | 31–24 | 38 |
| Іслач | 22 | 11 | 4 | 7 | 31–25 | 37 |
| Гарадзея | 21 | 8 | 6 | 7 | 22–23 | 30 |
| Нёман | 22 | 7 | 5 | 10 | 21–31 | 26 |
| Слуцк | 22 | 7 | 5 | 10 | 22–36 | 26 |
| Славія | 20 | 6 | 5 | 9 | 23–29 | 23 |
| Мінск | 22 | 5 | 8 | 9 | 27–34 | 23 |
| Віцебск | 21 | 5 | 6 | 10 | 18–30 | 21 |
| Гомель | 22 | 4 | 6 | 12 | 33–40 | 18 |
| Энергетык-БДУ | 22 | 3 | 7 | 12 | 30–56 | 16 |
| Дняпро | 21 | 4 | 4 | 13 | 20–31 | 16 |
| Тарпеда | 21 | 1 | 3 | 17 | 4–36 | 6 |

Фота: fcminsk.by



Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 23.09.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 160 экз. Заказ № 3049.

9 772071 964000 19075